# КРЫНІЦА

№2(20) ЧЭРВЕНЬ 2011 www.bchd.info





# Рымашэўскі – трэці па папулярнасці сярод дэмакратычных кандыдатаў

Дадзеныя сацыялагічнага апытання, праведзеныя Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследванняў у снежні 2010 года сведчаць, што кандыдат у прэзідэнты ад «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» ***Віталь Рымашэўскі*** заняў трэцяе месца сярод дэмакратычных кандыдатаў (у % ад агульнай колькасці выбаршчыкаў і ад яўкі адпаведна):

*Уладзімер Някляеў – 8.3% \ 9.7%*
*Андрэй Саннікаў – 6.1% \ 7.0%*
***Віталь Рымашэўскі – 3.7% \ 4.2%***
*Яраслаў Раманчук – 3.2% \ 3.6%*
*Алесь Міхалевіч – 2.7% \ 3.0%*
*Мікалай Статкевіч – 1.7% \ 1.9%*
*Рыгор Кастусёў – 1.6% \ 1.8%*
*Віктар Цярэшчанка – 0.6% \ 0.7%*
*Дзмітры Вус – 0.5% \ 0.6%*

Таксама выступ кандыдата ад БХД стаў трэцім па папулярнасці сярод выступаў дэмакратычных кандыдатаў:

*Уладзімер Някляеў – 9.7%,*
*Яраслаў Раманчук – 4.9%,*
***Віталь Рымашэўскі – 4.8%,***
*Андрэй Саннікаў – 4.6%,*
*Алесь Міхалевіч – 2.5%,*
*Віктар Цярэшчанка – 2.2%,*
*Мікалай Статкевіч – 1.9%,*
*Рыгор Кастусёў – 1.0%,*
*Дзмітры Вус – 0.7%*

Разам з тым, дадзеныя НІСЭПД сведчаць, што Віталь Рымашэўскі быў адзіным дэмакратычным кандыдатам, за якога прагаласавала больш жанчын, чым мужчын. Жанчыны пераважалі толькі ў галасаванні за яшчэ аднаго кандыдата – Аляксандра Лукашэнку.

Трэцяе месца Віталя Рымашэўскага сярод апазыцыйных кандыдатаў сведчыць пра добрую працу БХД, устаноўчы з'езд якой адбыўся толькі за паўтары гады да выбараў. Разам з тым, лічбы паказваюць на вялікі патэнцыял для дзейнасці партыі ў далейшым.

*www.bchd.info*

# Паўла Севярынца асудзілі на 3 гады «хіміі» і выпусцілі ў судзе

**16 траўня лідэр БХД Павал Севярынец асуджаны да 3 гадоў «хіміі» і выпушчаны ў судзе.**



Ірына Халіп і Сяргей Марцалеў, якіх судзілі разам з Паўлам, атрымалі 2 гады з адтэрміноўкай і з выпрабавальным тэрмінам адпаведна. Сваякі і сябры, у тым ліку прыхільнікі БХД, якія прыйшлі ў суд з кветкамі, змаглі сустрэць і абняць Паўла адразу ў будынку суда.

У першым інтэрв'ю пасля вызвалення **Павал Севярынец** заявіў, што не прызнае гэты прысуд справядлівым. Ён будзе змагацца за вызваленне іншых палітвязняў, у прыватнасці, у дзень выхаду з суда наведаў шэраг судоў. Адносна катаванняў Павал прызнаўся, што для яго асабіста самым цяжкім было катаванне духоўнае, калі яму не дазвалялі сустрэцца са святаром.

Пасля суда Павал Севярынец мусіў цягам трох сутак адбыць па месцы прапіскі ў Віцебску і чакаць накіравання ў месца адбыцця пакарання. Пасля вызвалення Павал адразу паехаў у Петра-Паўлаўскі сабор Менску, каб ажыццявіць сваю даўнюю мэту сустрэчы са святаром для споведзі і прычасця. Заявы пра гэта, падчас знаходжання ў СІЗА КДБ, ён пісаў 10 разоў.

Нагадаем, сустаршыню БХД Паўла Севярынца, які і іншых асуджаных разам з ім фігурантаў справы, вінавацілі ў арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўным удзеле ў іх (частка 1 артыкулу 342 Крымінальнага кодэкса). Па гэтым жа артыкуле абвінавачваўся і іншы сустаршыня БХД, экс-кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі, працэс над якім адначасова ішоў у судзе Фрунзенскага раёну Менску.

# Прысуд Віталю Рымашэўскаму – 2 гады ўмоўна



**20 траўня абвешчаны канчатковы прысуд сустаршыні БХД, экс-кандыдату ў прэзідэнты Віталю Рымашэўскаму: 2 гады пазбаўлення волі ўмоўна. Другому былому кандыдату Уладзіміру Някляеву – 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай пакарання на 2 гады, сябрам яго каманды Андрэю Дзмітрыеву і Аляксандру Фядуту – 2 гады пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады, Сяргею Вазьняку – 2 гады ўмоўна. Маладафронтаўцы Насці Палажанцы - 1 год пазбаўлення волі ўмоўна з адтэрміноўкай тэрміну на 1 год.**

На ганку суда Рымашэўскага з кветкамі сустрэлі сваякі, сябры і паплечнікі з БХД.

Пасля выхаду з залы суда Віталь Рымашэўскі даў кароткае інтэв'ю:

«Пракурор назваў адзінай змякчаючай акалічнасцю – наяўнасць непаўнагадовай дачкі на ўтрыманні. Безумоўна, я рады штодня бачыць гэтую «акалічнасць», быць разам са сваёй сям'ёй. Але для мяне ўмоўны тэрмін – гэта не свабода. Гэтыя ўмовы я адчуваў на сабе пасля вызвалення з СІЗА КДБ. Беларускія дэмакратычныя палітыкі нават без умоўнага прысуду могуць у любы момант апынуцца за кратамі.

Свабодным я буду адчуваць сябе толькі тады, калі выйдуць на волю ўсе асуджаныя за Плошчу. Таму я буду рабіць усё магчымае, каб дамагчыся іх вызвалення. Найперш трэба змагацца за тых маладых хлопцаў, якім далі ад 3 да 4 гадоў узмоцненага рэжыму. Калі мы ўсе супольна будзем дамагацца гэтага, веру, што, з дапамогай нашай салідарнасці і негвалтоўнага змагання, яны могуць быць вызваленыя ўжо ў гэтым годзе.

Я быў вельмі рады пачуць, што перанеслі вынясенне жорсткіх прысудаў Статкевічу, Вусу і іншым падсудным у судзе, які ішоў паралельна з нашым, і дзе запатрабавалі ім ад 4 да 8,5 гадоў узмоцнага рэжыму. Перанясенне прысудаў азначае, што могуць быць вынесеныя больш мяккія пакаранні. Відаць, Лукашэнка сёння не атрымаў ад Расеі таго, чаго чакаў, і зараз будзе імкнуцца «прадаць» палітвязняў Захаду. Тым больш, што ў панядзелак 23 траўня ЕЗ разглядае пытанне пра ўвядзенне эканамічных санкцыяў у дачыненні да Беларусі».

# БХД прадставіла планы далейшай дзейнасці



**15 чэрвеня адбылася прэсавая канферэнцыя аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У ёй узялі ўдзел сустаршыні БХД Віталь Рымашэўскі і Аляксей Шэін і адказны сакратар Дзяніс Садоўскі. Канферэнцыя была прысвечана планам дзейнасці БХД, а таксама пазіцыі «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» ў дачыненні да найбольш вострых пытанняў.**

На пачатку выступіў Віталь Рымашэўскі, які прадставіў планы дзейнасці БХД па найбольш вострым пытанні – правядзенні свабодных выбараў і вызваленні палітвязняў.

«Пасля фальсіфікацый выбраў, наступных масавых палітычных рэпрэсій і імклівага эканамічнага крызісу, як ніколі дагэтуль відавочным становіцца тое, што прычынай збядненння беларусаў і адсталасці нацыянальнай эканомікі з’яўляецца заганная палітычная сістэма. У аснове сучаснага эканамічнага крызісу Беларусі – адсутнасць свабодных выбараў і , як наступствы гэтага, – адсутнасць дэмакратычна абранай заканадаўчай улады і сістэмы мясцовага самакіравання, незалежнай судовай сістэмы, высокі ўзровень карупцыі, уціск палітычнага іншадумства і прыватнай эканамічнай ініцыятывы», – адзначыў ён.

На думку палітыка, «правядзенне эканамічных рэформ, рэалізацыя антыкрызісных праграм немагчымы без палітычных рэформ і забеспячэння асноўных канстытуцыйных правоў і свабодаў, якія гарантуюць кантроль грамадства над расходам бюджэтных сродкаў, абарону ўкладанняў замежных інвестараў і развіццё прыватнай ініцыятывы грамадзян Беларусі». «Цяпер як ніколі зручна тлумачыць насельніцтву непасрэдную сувязь палітыкі і эканомікі. Эканамічны крызіс наўпрост звязаны з заганнай палітыкай кіраўніцтва Беларусі. Ім не дапамогуць ні крэдыты, ні антыкрызісныя планы», – адзначыў Віталь Рымашэўскі.

У рамках кампаніі за свабодныя выбары і вызваленне палітвязняў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі плануецца:

- распаўсюд інфармацыі пра прычыны эканамічнага крызісу, вынікі выбараў і вынікі судовых працэсаў у сувязі са справай 19 снежня 2010 года ў Менску;
- правядзенне на працягу бліжэйшага месяцу 100 пікетаў, іншых акцый ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў падтрымку палітвязняў і патрабавання правядзення свабодных выбараў;
- збор подпісаў пад патрабаваннем неадкладнага вызвалення палітычных вязняў;
- падтрымка міжнароднай кампаніі салідарнасці. Мы будзем дамагацца куратарства дэпутатаў парламентаў дэмакратычны краін свету над усімі палітвязнямі;
- падтрымка палітвязняў і кантроль за выкананнем міжнародных нормаў па ўмовах утрымання зняволеных;

БХД таксама заклікае усе міжнародныя структуры і ўрады дэмакратычных краін устрымацца ад правядзення перамоў, у тым ліку, звязаных з палітычным і эканамічным супрацоўніцтвам, з прадстаўнікамі ўладных структур Рэспублікі Беларусь да моманту вызвалення ўсіх палітычных вязняў. Аргкамітэт звяртаецца да ўсіх царкоўных, грамадскіх і палітычных арганізацый Беларусі, а таксама да ўсіх зацікаўленых міжнародных структур з заклікам патрабаваць неадкладнага вызвалення палітычных вязняў і правядзення свабодных і справядлівых выбараў.

У прыватнасці, Віталь Рымашэўскі заклікаў людзей прыйсці 17 чэрвеня а 10-й гадзіне ў Менскі гарадскі суд на разгляд касацыйнай скаргі лідэраў «Маладога фронту» Зьмітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава, 21 чэрвеня а 10-й – Ірыны Халіп, Паўла Севярынца і Сяргея Марцалева, 24 чэрвеня а 10-й – Алеся Кіркевіча, Паўла Вінаградава, Зьмітра Дразда, Андрэя Пратасені і Уладзіміра Хамічэнкі.

Наступным выступіў Аляксей Шэін, які прадставіў план дзейнасці БХД у абарону свабоды сумлення. У прыватнасці разам з цэрквамі і грамадскімі арганізацыямі плануецца працягнуць кампанію па зборы подпісаў за адмену артыкулу 193 Крымінальнага кодэксу аб дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Надалей выступіў Дзяніс Садоўскі, які распавёў пра мерапрыемствы, што плануецца разам з цэрквамі і грамадскімі арганізацыямі правесці ў абарону жыцця: пікеты, распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў і правядзенне семінараў. Таксама плануецца працягваць кампанію «Пакаянне». «Для БХД абарона чалавека заўсёды прадстаўляе вялікі інтарэс незалежна ад палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне», - адзначыў Дзяніс Садоўскі.

# БХД распачала акцыі ў межах кампаніі «За сямейныя каштоўнасці» па ўсёй краіне

**Сябры аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» і сябры «Маладых хрысьціянскіх дэмакратаў» 31 траўня ў межах кампаніі за сямейныя каштоўнасьці «Моцная сям'я - моцная Беларусь» правялі ў Менску акцыі, накіраваныя на абарону ненароджаных дзяцей. Акцыі былі прымеркаваныя да Дня абароны дзяцей, які адзначаецца 1 чэрвеня.**

31 траўня у паліклініках Менску сябры БХД і МХД распаўсюджвалі друкаваныя матэрыялы і тэматычныя дыскі, у якіх распавядалася, што аборт - гэта забойства, чым гэта пагражае жанчынам, чаму важна нараджаць дзяцей. Таксама актывісты Моладзі БХД у найбольш людных месцах Менску распаўсюджвалі плакаты «У абарону жыцця».

«Гэта вельмі важныя акцыі. Мы павінны паказаць людзям, чаму важна мець дзяцей, чаму ня трэба забіваць ненароджаных дзяцей. Аборт – гэта таксама забойства. І людзі павінны гэта ведаць. Асабліва важная гэта акцыя ў нашай краіне, дзе штогод назіраецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці народжаных дзяцей», – адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.



# Прыхільнікі БХД правялі ў цэнтры Менску акцыю ў абарону сямейных каштоўнасцяў

**Увечары 31 траўня прыхільнікі БХД і «Маладыя хрысьціянскія дэмакраты» раздавалі ў цэнтры Менску буклеты пра наступствы абортаў і важнасць маральных паводзінаў, а таксама пра небяспеку шкодных звычак: наступствы алкагалічнай і наркатычнай залежнасцяў, шкоду палення. Акцыя была прымеркаваная да Дня абароны дзяцей, а таксама Сусветнага дня без тытуню, які адзначаецца 31 траўня.**

Буклеты з інфармацыяй пра развіццё дзіцяці ва ўлонні маці і пра наступствы, якія ўзнікаюць пасля абортаў, пра маральныя паводзіны і цнатлівасць да шлюбу, сумную статыстыку абортаў і далейшага бясплоддзя, распаўсюджваліся сярод маладых дзяўчатаў.

А ўсім маладзёнам, якія палілі ці ўжывалі піва, хадэкі прапаноўвалі буклеты пра наступствы алкагалічнай і наркатычнай залежнасцяў, шкоду паленьня. Усё разам - гэта хімічная залежнасць, страшная праблема, што разбурае асобу чалавека і руйнуе ягоную сям'ю. Яна ёсць прычынай 50% разводаў і абсалютнай колькасці сіроцтваў.



# У Віцебску і Буда-Кашалёве прайшлі акцыі ў абарону жыцця

**Сябры аргкамітэту па стварэнні партыі „Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" правялі шэраг акцый у розных гарадах Беларусі ў падтрымку жыцця і сямейных каштоўнасцяў. Так, у Буда-Кашалёве мясцовыя актывісты БХД разклейвалі налепкі ў абарону жыцця, раздавалі ў паліклініцы і жаночай кансультацыі горада буклеты за права дзяцей быць народжанымі і супраць абортаў.**

Падобныя акцыі прайшлі і ў Віцебску. Тут буклеты раздавалі таксама ў месцах збору маладых людзей, ля цэркваў, налепкі вешаліся ў людных месцах, ля пад'ездаў і крамаў. Апроч таго, віцебскія прыхільнікі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі распачалі збор подпісаў за змяненне дзейнага заканадаўства адносна ненароджаных дзяцей і абортаў.



# Віталь Рымашэўскі

## Онлайн-канфэрэнцыя з сайта «Радыё Свабода»



**Імя:: Ирина**

**Горад:: Минск**

*Виталий, в ходе избирательной компании взаимоотношения между Вами и коллегами-кандидатами складывались как исключительно конкурентные или хоть с некоторыми наметились какие-то точки соприкосновения, более-менее совместимые взгляды и интересы (помимо неизбежного в наших условиях „против кого дружите“)? Поддерживаете ли Вы сейчас какие-либо контакты с теми, с кем это возможно? или намереваетесь в дальнейшем? Или каждый - при своих интересах и разочарованиях? Как Вы вообще оцениваете возможности и перспективы дальнейшей консолидации?.. Спасибо*

**Віталь Рымашэўскі:**

Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя і я асабіста цягам усёй кампаніі ня толькі былі адкрытымі да супрацы з усімі дэмакратычнымі кандыдатамі, але і самі ініцыявалі супольныя сустрэчы, дамовы. Можна узгадаць хаця б мой заклік у прамым эфіры аб сустрэчы усіх кандыдатаў. На яго, дарэчы адгукнуліся усе, апроч аднаго кандыдата. На жаль, ня ўсё атрымалася. Не было той кансалідацыі, якой хацелася б. Але ж я лічу, што ў гэтым пляне ўсе кандыдаты кампанію правялі годна. Галоўнае – не паддаліся на правакацыі улады, якая жадала публічных сварак, узаемных абвінавачваньняў. Гэтага не было. І гэта заслуга кандыдатаў і іх штабоў.

БХД была ініцыятарам стварэньня Рады дэмакратычных сілаў. У яе увайшлі усе буйныя палітычныя арганізацыі. Мы працуем на адзінства. Пры гэтым разумеем, што яно магчымае толькі на глебе супольных каштоўнасьцей, супольных мэтаў.

**Імя:: Мікола**

**Горад:: Менск**

*Як вы ставіцеся да рэакцыі праваслаўнай царквы на падзеі 19 снежня. Як вы прыйшлі да Бога і чаму выбралі менавіта праваслаўную царкву? Дзякуй.*

**Віталь Рымашэўскі:**

Рэакцыя была рознай (былі лісты вернікаў, калектыўныя звароты, былі і ёсьць малітвы за вязьняў). Ведаю, што ніколі яшчэ праваслаўная царква так не падтрымлівала дэмакратычныя сілы, як зараз. Да афіцыйных выказваньняў стаўлюся адмоўна.

Я быў сьвядомым атэістам да 22 год. Даказваў, што бога няма.

Але усё жыцьцё, наколькі сябе памятаю, мяне цікавіў адказ пра сэнс жыцьця. Таксама вабіла праўда. Болей за ўсё іншае.

Сустрэча з Богам адбылася зусім нечакана. Я ня проста веру ў нешта. Я ведаю, што Ён ёсьць. Я ведаю дакладна, што для таго, каб па сапраўднаму паверыць - кожнаму неабходна асабістая сустрэча зь Ім. Расповядаў будзе мала. Перакананьне і агітацыя тут не працуюць.

Праваслаўны – таму што я быў хрышчоны ў дзяцінстве, таму што лічыў, што гэта гістарычныя царква на Беларусі, і калі кажуць , што “яна зараз маскальская”, то не буду аддаваць яе маскалям:) У гэтым пляне выдатны прыклад Канстанцін Астроскі – пераможца бітвы пад Воршай. Ён быў праваслаўным і пры гэтым патрыётам сваёй краіны. Не здраджваў ніколі ні Радзіме ні Царкве. Ён для мяне заўсёды быў прыкладам.

Зараз вельмі рады, што абраў праваслаўе.

**Імя:: Выбаршчык**

*Тое, што БХД адна з мацнейшых Партый, Вы яшчэ раз падцвердзілі сваёй моцнай выбарчай кампаніяй. Віншую Вас. Шкада, што не ўсё атрымалася 19, але спадзяюся, што ўсё лепшае на перадзі.*

*Якія планы на будучыню?*

**Віталь Рымашэўскі:**

Дзякую за падтрымку. Плянаў шмат. Трэба разьвіваць партыю. Трэба таксама напаўняць новым зьместам, новай якасьцю працы нацыянальны дэмакратычны рух Беларусі. Перакананы, нас чакаюць вельмі важныя падзеі ў бліжэйшы час год. Лёсавызначальныя для Беларусі падзеі.

Далучайцеся! Будзьма разам!

**Імя:: Александр**

**Горад:: Слоним**

*Доброго дня, Виталь! Как Вы считаете,насколько нужно прижать наш народ,чтобы произошел египетский сценарий? И возможно ли вообще у нас такое? Очень симпатизирую Вам, как политику и просто мужественному человеку! Дай Бог нам такого Президента!!!*

**Віталь Рымашэўскі:**

Дзякую за добрыя словы.

У Эгіпце, насамрэч эканамічная сытуацыя была нашмат горшай, чым ў Беларусі. Веру ў тое, што зьмены ў нашай краіне магчымыя, зьмены да лепшага абавязкова адбудуцца. Не дарэмна было змаганьне за свабоду , за праўду і справядлівасьць на нашай зямлі сотні год. Зьмены прыйдуць. Усё залежыць ад нас. Зараз – ад простых людзей, ад шэраговых актывістаў болей, чым ад лідэраў. Толькі сцэнар павінен быць не Эгіпэцкі, не Расейскі, не Заходні, а наш, Беларускі. Давайце на гэта працаваць.

**Імя:: Serg**

**Горад:: Менск**

*Пытаньне амаль рытарычнае, але істотнае – колькі можа праіснаваць дыктатура, ня маючы зьнешніх рэсурсаў?*

**Віталь Рымашэўскі:**

Вельмі кароткі, альбо вельмі доўгі час – гэта залежыць ад волі народа да свабоды. Але ж адсутнасьць зьнешніх рэсурсаў, безумоўна, ускладняе задачу дыктатуры.

**Імя:: Плошча-2010**

**Горад:: Менск**

*Цікава даведацца, якія на твой погляд найбольш істотныя адрозненьні паміж дзейнымі сябрамі БХД і будучымі, тобок тымі, хто яшчэ не далучыўся да нас?*

**Віталь Рымашэўскі:**

У БХД зараз годныя, вартыя людзі. Заўсёды хочацца верыць, што тыя , хто прыйдуць, будуць яшчэ лепшымі:). Істотнае адрозьненьне будзе ў адным – новыя людзі ў большасьці ня будуць мець досьведу працы ў дэмакратычных грамадзкіх арганізацыях і партыях. Ужо зараз такіх большасьць.

**Імя:: Андрусь**

**Горад:: Менск**

*Паважаны Віталь! Ведаю што Вас на выбарах падтрымалі шмат вернікаў. І ня толькі праваслаунай але і іншых канфесій. І таксама ведаю, што адзін з вядомых расейскіх экстрасэнсау бачыць Вас у ролі будучага кіраўніка дзяржавы. Цікава, як Вы ставіцеся да гэтага прагнозу і наогул да прагнозау палітычных? Дзякуй.*

**Віталь Рымашэўскі:**

Ня чуў пра такі прагноз. Да экстрасэнсаў і прадказаньняў стаўлюся адмоўна. Мы свабодныя ў выбары свайго шляху. Усё залежыць ад нас.

**Імя:: galina**

**Горад:: minsk**

*Паважаны Віталь!*

*Як суадносяцца хрысціянскія каштоўнасці і палітыка, якая, як вядома „справа даволі брудная“? Наколькі Вера дапамагае, або перашкаджае Вам у вашай палітычнай дзейнасці?*

*Зычым здароʼя і моцы духу Вам і вашым родным.*

**Віталь Рымашэўскі:**

Вера дапамагае заўсёды – у палітыцы, у жыцьці. Палітыка брудная справа, калі рабіць яе брудна. Таму хрысьціяне мусяць ісьці ў палітыку, несьці альтэрнатыву.

Дзякую за пажаданьні. Вам таксама жадаю умацаваньня ў веры і любові.

**Імя:: сяргей**

**Горад:: лунінец**

*Як Вы лічыце, чым ( акрамя грошай) маглі б дапамагчы Нацыянальнаму Руху Беларусы, якія зʼехалі за мяжу з розных прычын?*

**Віталь Рымашэўскі:**

Актыўнай працай у інтэрнэце, стварэньнем інтэрнэт-СМІ для Беларусі, гэта можна рабіць з любога кутка сьвету.

**Імя:: 2012**

*Вы были счастливы до 19 декабря?*

*Что значит быть счастливым?*

*Если бы вы стали Президентом РБ, вы бы были счастливы?*

**Віталь Рымашэўскі:**

Быць шчасьлівым – значыць умець любіць. Шчасьлівы чалавек толькі тады, калі жыве ў свабодзе, праўдзе і любові.

Шчасьце не залежыць ад пасады. Пасада не прыносіць шчасьця.

**Імя:: Езавітаў**

*Сейчас очень много разговоров о том кто больший патриот, кто за чьи деньги существует. Ваша партия могла бы публично отказаться от денег Запада, которые они сейчас выделяют?*

**Віталь Рымашэўскі:**

Так, магла б. Тым болей, што адмаўляцца асабліва няма ад чаго.

БХД правяла 2 кампаніі – мясцовую і прэзыдэнцкую ў 2010 годзе амаль цалкам за кошт унутрыбеларускіх рэсурсаў.

На вялікі жаль, заходняя падтрымка не толькі дапамагае, але часта стварае праблемы для разьвіцьця незалежных партый і арганізацый. Гэта адбываецца тады, калі узьнікае шэраг штучных грамадзкіх і палітычных абʼяднаньняў, якія трымаюцца толькі за кошт замежнай падтрымкі. Такім чынам, ствараюцца штучныя арганізацыі, штучная канкурэнцыя. І сапраўдным, запатрабаваным, новым ініцыятывам вельмі складана прабіцца скрозь гэтую сыстэму.

Таму ў сёньняшніх умовах я асабіста быў бы рады, каб падтрымкі зусім і нікому не было , хаця б на малы час. Ад гэтага дэмакратычныя сілы не зьніклі б . Затое зьніклі б тыя, хто існуе толькі за кошт замежнай падтрымкі.

Таксама ведаю, што па-сапраўднаму беларуская палітыка будзе незалежнай толькі тады, калі будзе існаваць на беларускія грошы. Да гэтага трэба імкнуцца.

**Імя:: Таиса**

**Горад:: Богданово**

*Уважаемый господин Римашевский!*

*В первую очередь хочу поблагодарить за вашу политическую деятельность!*

*Имею к вам два вопроса:*

*1. Какие уголовные и административные санкций вам еще «угрожают»?*

*2. Готовы ли вы взять на себя ответственность, объединить оппозиционные силы, и стать лидером, который приведет Беларусь к новому завтра?*

**Віталь Рымашэўскі:**

1. Я па-ранейшаму абвінавачаны па артыкуле крымінальнага кодэкса, што прадугледжвае пакараньне на тэрмін ад 5 да 15 год зьняволеньня.

2. Буду працаваць на абʼяднаньне. Перакананы, што Беларусі зараз патрэбны не адзін яркі лідэр, а лідэрства і адказнасьць дзясяткаў тысяч беларусаў за палітычную сытуацыю ў краіне.

# Павал Севярынец

## Онлайн-канфэрэнцыя з сайта «Радыё Свабода»



**Імя:: Іван Шыла**

*Учора у перадачы Барыса Гарэцкага на Радыё Рацыя вы заявілі, што не ведаеце, каму мог быць выгадны разгон Плошчы. На Ваш погляд гэта не відавочна Расея?*

**Павал Севярынец :**

Расея атрымала з выніку 19 сьнежня і далейшых падзей больш, чым Лукашэнка, Захад і апазыцыя, разам узятыя. Пытаньне якраз у тым, што за сілы знутры Беларусі мэтанакіравана працавалі на гэткі сцэнар. Прозьвішчаў (прадстаўнікоў сыстэмы або апазыцыі) сапраўды ня ведаю. Але – усе таемнае рана ці позна робіцца яўным.

**Імя:: Яўген**

**Горад:: Менск**

*Вітаю Вас, Павал Канстанцінавіч!*

*Маю да Вас некалькі пытаньняў:*

*1. Вашая кніга „Люблю Беларусь“ поўнасьцю зьмяніла маё сьветаўспрыманьне. Таму зь вялікім нецярпеньнем чакаю Ваш раман „Сэрца сьвятла“. У якой стадыі знаходзіцца праца над ім? І ці не замінalі Вам у працы над раманам у СІЗА КДБ?*

*2. Якая пазіцыя адносна рэжыму, на Ваш погляд, зараз больш дзейсная - канструктыўны дыялог ці байкот?*

*3. Як Вы ацэньваеце шанцы на ўвядзеньне эканамічных санкцыяў з боку ЕЗ у дачыненьні да Беларусі і ці падтрымліваеце Вы такія крокі?*

*4. Што, на Вашую думку, можа ўратаваць луканоміку ад поўнага краху?*

*Загадзя дзякую за адказы!*

*Посьпеху Вам і Божых дабраславеньняў!*

**Павал Севярынец :**

Дзякуй вялікі Вам, Яўген!

а) праца над раманам “Сэрца сьвятла” у завяршальнай стадыі. Калі Госпад дасьць, і усё будзе добра, падчас адбываньня “хіміі” падрыхтую яго да публікацыі. Працаваць пісьменьніку ў СІЗА КДБ сапраўды няпроста: чарнавікоў пад рукою няма, а каб перадаць на волю любы напісаны тэкст, яго трэба перадаваць цэнзуры. Могуць сканфіскаваць. Дзякуй Богу, усе тры мае сшыткі зараз у мяне.

б) Канструктыўнага дыялёгу не атрымаецца, пакуль у турмах палітвязьні. БХД зьбіраецца працаваць наўпрост зь людзьмі, якія разгубленыя крызісам і шукаюць альтэрнатывы.

в) Эўропа аднадушная і дамагаецца спыненьня палітычнага перасьледу. Але мэтавыя эканамічныя абмежаваньні (так іх называюць самі эўрапейцы) могуць умацаваць залежнасьць Беларусі ад Расеі.

г) Пуцін наўрад ці будзе ратаваць беларускую сыстэму – хутчэй у ягоных інтарэсах трымаць яе аслабленай і прыпёртай да “жалезнай заслоны” з Захадам. А без зьнешняй падтрымкі такая мадэль гаспадаркі неканкурэнтаздольная.

Узаемна – волі і веры Вам, Яўген!

**Імя:: Сяргей**

**Горад:: Менск**

*Добры дзень!*

*Сёньня усё болей расповядаў пра катаванні у КДБ, але слухаў у панядзелак перадачу з Вамі на Радыё Рацыя, і Вы чамусьці вельмі акуратна абышлі гэту тэму. Чаму?*

**Павал Севярынец :**

Дарагі Сяргей! Падзеі ў першыя два месяцы арышту ў СІЗА КДБ ужо дэталёва апісаныя тымі, хто выходзіў раней. Мною “расьцяжкі”, “маскі”,ператрусы і псыхалягічны ціск (усё гэта было) успрымаліся хутчэй як зьдзек па камандзе “згары”, а не як катаваньні, з якімі звычайным беларускім вязьням ў іншых турмах і калёніях даводзіцца сутыкацца. Зь іншага боку, 16 гадзінаў у “стакане” без прыбіральні (1997 г., Маскоўскі РАУС) або перавозку летам у душным аўтазаку па тры чалавекі ў жалезным глухім боксе 1x1 м (бывала ў 2001-2007 г.) – вось такое сапраўды цяжка вытрымаць.

На сваіх сустрэчах з дыпляматамі за апошнія 3 дні я вельмі прасіў іх зьвярнуць увагу на ўмовы утрыманьня тых, хто мае тэрміны пазбаўленьня волі – Саньнікава, Дашкевіча, маладых хлопцаў...

**Імя:: Надзея**

**Горад:: Менск**

*Павал, чаму на Вашу думку, у нашай хрысціянскай краіне такая жахлівая сітуацыя з колькасцю абортаў і што мы асабіста можам зрабіць, каб гэта змянілася? Дзякуй*

**Павал Севярынец :**

Дзякуй за пытаньне, Надзея! Насамрэч, масавае забойства ненароджаных дзяцей, якое адбываецца ў Беларусі – адна з найстрашнейшых і самых ганебных зьяваў. БХД разам з цэрквамі ажыцьцяўляе кампанію “Моцная сям”я – моцная Беларусь”. Далучайцеся ў абарону жыцьця: 80296512665 (Аляксей), 80336610385 (Ірына).

**Імя:: Аляксандр**

**Горад:: Менск**

*Пазіцыя каталіцкага касцёла пасля выбараў, калі Кандрусевіч прыняў удзел ва „Усенародным сходзе“, а арцыбіскуп Чэллі па прыездзе у Беларусь адразу паехаў сустракацца з Радзьковым, - што гэта?*

**Павал Севярынец :**

Шаноўны Аляксандр! Разумею Ваша пытаньне, але не магу асуджаць пазыцыю герархаў касьцёлу – яны таксама ў складаным становішчы. Спадзяюся, блізкі час, калі Царква зможа адкрыта узьняць голас у абарону праўды і справядлівасьці.

**Імя:: Нішкам**

*Павал, дзе паводле Вас знаходзіцца мяжа па-за якой магчыма лічыць чалавека рэлігійным фанатыкам?*

**Павал Севярынец :**

Мяжа паміж любоўю і нянавісьцю, свабодай і гвалтам... Часта яна тонкая і нават вострая.

**Імя:: Pavel S.**

**Горад:: undefined**

*Паважаны Павел, у мяне да Вас некалькі пытанняў:*

*- Ці змяніліcь у вас за апошнія паўгады нейкія погляды, адносіны і станаўлення да чагосьці, каштоўнасці? Калі так, то якія менавіта?*

*- Якая, на Ваш позірк, галоўная (альбо іх некалькі) памылка апошняй выбарчай кампаніі?*

*- Наступныя „выбары“ на Ваш погляд: будуць датэрміновымі, байкот, адзіны*

*кандыдат, шмат кандыдатаў, больш шчыльная праца з насельніцтвам (аля малое сітна - 2006)? Ахарактэрызуйце, калі ласка, планы на будучыню ўвогуле.*

*Дзякуй. Вы вельмі мужны чалавек! Галоўнае - не здавайцеся. Усё роўна мы пераможам!*

**Павал Севярынец :**

Дзякуй за пытанні.

– Апошнія паўгады Госпад ачышчаў маё сэрца – у камэры духоўнае кшталтаванне ідзе мацней, чым на волі.

– памылкі мінулай кампаніі – гэта і раз'ьяднанасьць, і адсутнасьць тактыкі на Плошчы, і імкненне зрабіць штосьці "сваёй воляю", без Бога.

– Праца зь людзьмі (асабліва ва ўмовах крызісу) найважней.

– Пляны: дапамагчы тым, хто зараз у зьняволенні; дапісаць раман; падтрымаць Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю.

Верым, можам, пераможам!

**Імя:: Dim**
**Горад:: Mensk**

*Доброго времени, Павел!*

*Спасибо Вам, за вашу позицию и работу .*

*Мои знакомые, живущие в ЕС удивляются нашему терпению.*

*У них мнение, что Беларусам нравится самоистязание.*

*Что- бы Вы им ответили?*

*Добро должно быть с кулаками. Согласны?*

**Павал Севярынец :**

Dim, беларусы – не мазахісты, а проста вельмі цярплівыя людзі. У аснове сваёй гэта глыбока евангельская нацыянальная якасьць. Але ва ўмовах бязбожжа пакорлівасьць перад Богам лёгка зблытаць зь цярпімасьцю да зла. "Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром "(Да Рымлянаў 12:21)

**Імя:: Уладзімір**
**Горад:: Брэст**

*1. Павел, ці адчувалі Вы Божую дапамагу пад час выпрабаванняў апошніх?*

*2. Што думаеце пра ТАКУЮ. якая цяпер ёсць, пазіцыю Філарэта ў адносінах да Лукашэнкі?*

*3. Як мацаваць веру ў Хрыста?*

**Павал Севярынец :**

Безумоўна, Уладзімір!

Часам, калі цяжка, было такое адчуваньне, што Госпад бярэ цябе на рукі і нясе, як малое дзіцё.

– Пра Царкву адказваў. Вельмі удзячны Уладыку за дабраславеньне на сустрэчу мамы з япіскапам Веніямінам, і самому япіскапу за малітву і намаганьні ў справе споведзі і прычасьця ў СІЗА.

– Мацаваць веру ў Хрыста проста: трэба адкрыць Яму сваё сэрца і тады Ён ачысьціць, асьвеціць і напоўніць нас Сваім вобразам і падабенствам.

**Імя:: Jose**
**Горад:: Barselona**

*Шаноўны Павал Канстанцінавіч! З вызваленьнем!*

*Як Вы ставіцеся да выраза некаторых прадстаўнікоў апазіцыі–- „прарасейская Плошча"?*

*Жадаю Вам моцы і папраўляцца хутчэй!*

**Павал Севярынец :**

Дзякуй!

Плошча была не „прарасейскай" – Плошча была беларускай з усімі вартасьцямі і заганамі, уласьцівымі сёньняшняму беларускаму грамадзтву (як з дэмакратычнага боку, так і з боку рэжыму). Нягледзячы ні на што, мы – адзін народ. Беларускі шлях ад Кастрычніцкай да Незалежнасьці ох які няпросты.

# Павел Севярынец пра народныя пратэсты: БХД мусіць дапамагаць арганізацыйна



**Сярод тых людзей, хто быў на акцыі «Стоп бензін» пацярпеў у Брузгах, і выйшаў на плошчы праз сацыяльныя сеткі – многа людзей з БХД. У шэрагу выпадкаў партыі свядома не хочуць свяціць свой удзел у акцыях пратэсту. Грамадскі пратэст, не ангажаваны партыйнай апазіцыяй, атрымліваецца больш плённым, больш эфектыўным. І дае рэальны вынік - як акцыя «Стоп-бензін».**

Фармальна апошнія акцыі былі неапазіцыйнымі. І я думаю, што палітычныя партыі і не павінны навыперадкі «асёдлываць» гэты працэс. Апазіцыя мусіць дапамагаць арганізацыйна, юрыдычна, бо без арганізацыйнага пачатку такія народныя пратэсты застаюцца выпускам пару. На рэгіянальным узроўні такія эканамічныя пратэсты даюць плён, і, як паказвае практыка, эканамічныя пратэсты далей выклікаюць да жыцця палітычныя патрабаванні. У нашым выпадку гэта - вызваленне палітвязняў. Класічны прыклад таму - польская «Салідарнасць», дзе апазіцыйныя дысідэнты выконвалі ролю групы падтрымкі, але ролю моцнай групы падтрымкі.

Таму і ў нас апазіцыя не павінна паўсюль падыначаць партыйныя сцягі. Трэба даць волю народнаму пратэсту, дапамагчы з самаарганізацыяй.

# БХД чацвёрты раз рыхтуецца да рэгістрацыі



**Партыя БХД у чацвёрты раз рыхтуе дакументы на дзяржаўную рэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі. Хрысціянскія дэмакраты спадзяюцца, што крызіс прымусіць дзяржаўнае ведамства адмовіцца ад палітыкі татальных забаронаў.**

Па словах адказнага сакратара аргкамітэту партыі **Дзяніса Садоўскага**, каб падстрахавацца, актывісты структуры прынялі рашэнне фіксаваць усе пасяджэнні на відэа – з мэтай, каб потым ізноў не паўстала пытанне легітымнасці сходаў.

*– Зараз адбываюцца сходы заснавальнікаў партыі, мы стараемся большасць з іх дакументаваць не толькі пратаколамі, але фота- і відэаздымкамі. Каб у часе вынясення рашэння, нават нерэгістрацыі, прад'явіць дадзеныя факты. Мы падышлі ў гэты раз яшчэ больш сур'ёзна да працэсу сходаў заснавальнікаў і падрыхтоўкі з'езда, таму абралі такі цяжкі і працяглы шлях.*

Па словах Дзяніса Садоўскага, чарговы ўстаноўчы з'езд БХД адбудзецца ў лютым 2012 года. Да гэтага часу мясцовыя сходы актывістаў адбудуцца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Партыя БХД ужо тройчы спрабавала зарэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі, аднак штораз атрымлівала адмовы. Дзяржаўныя ведамствы увесь час запалохвалі актывістаў і прымушалі адклікаць свае подпісы.

*«Зараз на парадку дня «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» – правядзенне рэгіянальных сходаў, на якіх будуць вылучаны дэлегаты на чарговы ўстаноўчы з'езд. Мы аднаўляем базу сяброў БХД, якая была знішчана падчас ператрусаў. Гэта быў спіс больш за 1000 подпісаў па ўсёй краіне. Пасля мы зробім чацвёртую спробу афіцыйнай рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі» – паведаміў адзін са сустаршыняў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі.*

# У Віцебску прайшла абласная канферэнцыя БХД

**У нядзелю 29 траўня ў Віцебску адбылася абласная канферэнцыя аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя». Удзел у ёй узялі як прыхільнікі БХД з усёй вобласці, так і непасрэднае кіраўніцтва аргкамітэта.**

Напачатку ўдзельнікі канферэнцыі заслухалі справаздачу пра дзейнасць аргкамітэта за 2010 год. Затым выступілі сустаршыня БХД Павал Севярынец і адказны сакратар Дзяніс Садоўскі.

Напрыканцы канферэнцыі адбыліся выбары ўправы абласнога аргкамітэта БХД. Яго старшынёй была пераабраная Таццяна Яўгенаўна Севярынец.



# Прайшла канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД



**У Гарадзенскай вобласці 11 чэрвеня адбылася канферэнцыя абласной арганізацыі аргкамітэта па стварэнні партыі „Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя". Яе ўдзельнікі абмеркавалі бягучую сітуацыю ў краіне, а таксама прапановы наконт далейшай дзейнасці.**

Так, былі абмяркаваны пытанні збору подпісаў за вызваленне палітвязняў, за правядзенне новых свабодных выбараў, а таксама пытанні арганізацыі пікетаў, правядзення рэгіянальных сустрэч, працягу акцый у абарону жыцця і сямейных каштоўнасцяў, аднаўленне актыўнай дзейнасці ў вобласці Рады народных дэпутатаў.

Апроч таго, удзельнікі канферэнцыі абралі кіраўніцтва абласной арганізацыі. Абласным каардынатарам аргкамітэта БХД па Гарадзенскай вобласці быў пераабраны Мікалай Баўсюк, ягонымі намеснікамі - Зміцер Кухлей з Мастоў і Іван Бедка са Слоніма.

# Менскі аргкамітэт БХД адзначыў 94-ю гадавіну ўтварэння партыі

**26 траўня менскі аргкамітэт «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» зладзіў святочны канцэрт да 94-й гадавіны з часу ўтварэння партыі.**

Напачатку вечарыны з прамовай выступіў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі, былы кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі. Наведнікам урачыстага мерапрыемства была прадстаўлена прэзэнтацыя па гісторыі БХД. Затым прысутныя пачулі расповед пра спробы аднаўлення хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў Беларусі на пачатку і ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя ад непасрэднага ўдзельніка тых падзей Анатоля Астапенкі.

На ўрачыстым канцэрце выступілі барды Ганна Чумакова, Таццяна Беланогая, Андрэй Бананаў , Аляксей Галіч, Раман Яраш і Андрэй Мельнікаў,  а таксама паэт Алесь Сьпіцын.



**Даведка**: 24-26 траўня 1917 г. у Менскім кафедральным касцёле прайшоў З’езд Беларускага каталіцкага духавенства, на якім сабраліся 30 чалавек. Арганізатарамі З’езда былі ксяндзы-заснавальнікі БХД Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч і іншыя. Менскі З’езд завяршыў стварэнне хрысціянска-дэмакратычнай партыі, якая атрымала назву Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць (БХДЗ), якая ў хуткім часе займела назву Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя.

Прадстаўнікі партыі ўваходзілі ў Беларускі нацыянальны камітэт, а потым і ў Вялікую Беларускую раду. БХДЗ вітала акт 25 сакавіка 1918 году, які абвяшчаў незалежнасць Беларусі. БХД арыентавалася на эвалюцыйны шлях развіцця грамадства і парламенцкія формы барацьбы. Выступала супраць таталітарызму — фашызму і бальшавізму.

Пасля Рыжскай змовы (1921) Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя працягвала дзейнасць на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая адышла да Польшчы (сядзіба партыі знаходзілася ў Вільні). Партыя пашырала нацыянальную свядомасць сярод беларускага насельніцтва вёсак і мястэчкаў, заклікала адстойваць права на беларускую мову ў школах і ў рэлігійным жыцці. Для ўзмацнення свайго ўплыву сярод сялянаў хрысціянскія дэмакраты заклалі ў 1926 годзе ў Вільні Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, выдаваўся друкаваны орган БХД - **газета «Крыніца»**, рэдагаваная Адамам Станкевічам. Лідар БХД кс. Адам Станкевіч быў таксама дэпутатам Польскага Сойму і намеснікам старшыні Беларускага Пасольскага Клуба (беларускай фракцыі ў Сойме).

6 лістапада 1927 г., у Вільні хадэцкія актывісты правялі ўстаноўчы сход партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У 2-й праграме, прынятай на Сходзе, гаварылася, што «БХД імкнецца да самастойнасці беларускага народу на ўсіх яго землях, аб’яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку». Ад 1927 году сябрамі партыі, паводле зменаў у Статуце, маглі быць не толькі каталікі, але і праваслаўныя. Гэты крок даў БХД магчымасць стаць адным з лідараў сярод партыяў Заходняй Беларусі.

Пасля далучэння ў верасні 1939 году Заходняй Беларусі да СССР дзейнасць партыяў была забароненая, многія хрысціянскія дэмакраты былі рэпрэсаваныя (сярод іх Янка Пазняк - дзед Зянона Пазняка, Адам Станкевіч, Станіслаў Грынкевіч, Фабіян Абрантовіч, Янка Шутовіч, Язэп Германовіч, Андрэй Цікота), некаторыя, пэўны час, як маглі, працягвалі працу на карысць Бацькаўшчыны, іншыя выехалі за мяжу. Лідар БХД а. Вінцэнт Гадлеўскі і іншыя ксяндзы і прыхільнікі БХД былі закатаваныя фашыстамі падчас Другой Сусветнай Вайны. Адраджацца Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя пачала толькі пасля распаду СССР у 1990-х гадах.



# Ачышчэнне ад брыдоты



Яшчэ тыдзень таму, мяне, як і большасць людзей у Беларусі, перапаўнялі рэвалюцыйна-трывожныя пачуцці. Гнеў змянялі няўпэўненасць у заўтрашнім дні і перажыванні за лёс маёй роднай і любай Беларусі. Але час ідзе, на барыкады ніхто не паклікаў, а душыцца ў чэргах па валюту або цукар – не мае жыццёвыя прыярытэты. Для мяне крызіс – час пераацэнкі каштоўнасцяў, дый усяго жыцця.

Першае, што заўважыў – грошай стала менш, кошты дзікія, накшталт дрэнна ўсё, але ў душы з'явіўся мір і супакой. Выходжу на вуліцу і бачу прыгажосць навакольнага свету, бачу людзей, бачу, як многія людзі сталі змяняцца ў лепшы бок, сам вучуся заўважаць і любіць людзей – паспяхова.

Сябры, паглядзіце, хто больш за ўсё панікуе цяпер і крычыць «Крызіс!!!»! Панікуюць тыя, хто Бога ў сваёй душы прамяняў на спажывецкія інстынкты. Людзі прыпадобніліся бяздушным спажыўцам з апетытамі, якія пастаянна растуць: «чарка, шкварка, іншамарка», кватэры, катэджы адпачынак у Турцыі, Егіпту і г.д. Але ж цяпер ужо стала відавочна ўсім, што ўсе гэтыя выгоды не былі зробленыя, а атрымліваліся выключна за кошт чужых грошай (датацыі РФ, нафтавая маржа і г.д.).

Безумоўна, ёсць частка людзей, перш за ўсё бізнес, якія сумленна зараблялі свае грошы і пацярпелі, але ад крызісу яны толькі выйграюць. Як? Пра гэта ніжэй.

Тыя, хто займаў фіктыўныя пасады, не прыносячы ніякай карысці грамадству, а да такіх можна аднесці большую частку дзяржапарату і кіраўнікоў, цяпер будуць вымушаныя сысці – няма больш дармовых грошай, на якіх можна было б жыраваць і далей. Стратныя заводы, фабрыкі, на якіх працавалі паўп'яныя маўклівыя рабочыя, зачыняць. Галоўная электаральная група Лукашэнкі – калгаснікі, перастануць піць алкаголь і паміраць, а будуць араць зямлю і багацець.

Крызіс – механізм ачышчэння ад брыдоты, ад граху змірэння са злом, прыняцця і падпарадкавання мярзоце. Крызіс – пакаранне вартым таго асобінам і шанец для новага пакалення, людзей новай фармацыі, людзей новага стагоддзя.

Напэўна, некаторыя чытачы паспрабуюць запярэчыць, маўляў «пацярпелі ж і сумленныя працоўныя, якія не пілі на працоўных месцах і працавалі сумленна». Так. Пацярпелі. Але годна прайшоўшы Ачышчальны этап, які будзе, безумоўна, цяжкім, яны атрымаюць шанец перайсці на цалкам іншы ўзровень жыцця, дзе іх праца будзе па вартасці ацэнена, дзе грошы яны будуць атрымліваць за свой розум і прафесійныя якасці, а не па-дачкі за маўкліву згоду са злом. Дый грэх маўклівай згоды ляжыць і на іх таксама.

Цалкам на новы ўзровень выйдуць і таленавітыя бізнесмены, бо сваю энергію яны будуць накіроўваць выключна на развіццё свайго бізнесу, а не на вечную барацьбу за выжыванне ва ўмовах агрэсіі паразітаў з кантралюючых і праўляючых органаў і складання стосы папер і справаздач.

У новай Беларусі выжывуць наймацнейшыя, такія ўжо законы жыцця. Тое, што апошнія гады рабілася ў Беларусі – несумяшчальна з жыццёвымі законамі быцця, не мае ніякіх духоўных або чалавечых асноў. Так вечна працягвацца не магло.

Вечна п'яная моладзь, якая хістаецца па вуліцах і дварах, якая мае ў свае маладыя гады па некалькі кадовак ад алкагалізму, бязвольныя студэнты з БРСМ, якія ствараюць масоўкі на святах правадыра, фальсіфікатары-педагогі, чыноўнікі-карупцыянеры, ды і проста людзі-спажыўцы, якія жывуць толькі думкай «жэрці!» – загінуць, або будуць вымушаныя каяцца і змяняцца.

Калі ў чалавека матэрыяльнае стаіць наперадзе духоўнага, то доля такога чалавека - Пекла. Пекла пры жыцці: вечны вар'яцкі недахоп, то солі, то цукру, то выпіўкі, то грошай, вечная паніка і дэпрэсія, і Пекла пасля смерці.

Крызіс – шанец усіх беларусаў перагледзець сваё жыццё, шанец ачысціцца ад брыдоты і разарваць д'ябальскую павуціну жыцця ў хлусні і баязлівасці.

Людзі! Вы ж яшчэ хоць трохі, але людзі! Якая соль? Які цукар? Якая валюта??? Адумайцеся!!! Жыць трэба па-новаму!!! Не душыце адзін аднаго! Не знішчайце! Любіце і дапамагайце ўсім, хто ў гэтым мае патрэбу! Змяняйце перш за ўсё сябе і свет вакол вас, у тым ліку і матэрыяльны, прыйдзіце ў гармонію! Бог дае нам шанец стаць самадастатковым і паважаным народам! І гэты шанец, напэўна, апошні ...

*Alex Alexandrovich*
*www.belpolitics.org*

# Садоўскі пра страйк у Брузгах: людзі вымушаныя ісці на нязвыклыя для іх меры



**Адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі пракаментаваў сітуацыю са страйкам на памежным пераходзе Брузгі:**

- Калі людзей даводзяць да адчаю, калі іх пазбаўляюць прыбытку, які яны мелі раней, яны вымушаныя ісці на меры, што раней для іх былі незвыклымі, - адзначыў ён.

- Прыкладам для ўдзельнікаў страйку ў Брузгах сталі аўтакіроўцы, які мітынгавалі супраць падвышэння коштаў на бензін. І гэты прыклад, пакажа шмат каму накірунак для дзейнасці. Калі ўлада не зменіць дзяржаўную палітыку, асабліва ў галіне эканомікі, падобныя акцыі паўторацца яшчэ шмат дзе, бо людзі будуць выходзіць, каб купіць хлеба для сваёй сям'і. Сёння Беларусі патрэбныя эканамічныя рэформы, якія немагчыма правесці без знешніх датацый. Калі ўлада хоча атрымаць крэдыт ад МВФ, яна абавязана праводзіць і палітычныя рэформы. Таму будзем спадзявацца, што ўлады іх правядуць, і, перадусім, пачнуць з вызвалення палітвязняў. Аргкамітэт БХД заўсёды падтрымлівае намаганні людзей, скіраваныя на адстойванне сваіх правоў і інтарэсаў, - падкрэсліў адказны сакратар.

Страйк, які адбыўся 12 чэрвеня на памежным пераходзе Брузгі, які быў выкліканы абмежаваннямі, уведзенымі ўладаю на вываз прадукцыі за межы Беларусі.

# Актывістка аргкамітэта БХД з Мастоў збірае грошы на аперацыю для дачкі

**Актывістка аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» з Мастоў Алена Давідовіч збірае сродкі на тэрміновую аперацыю для яе пяцігадовай дачкі Ксеніі.**

У дзяўчынкі рубцовае васкулязаванае памутненне рагавіцы, рэтракарнэальная мэмбрана, рэгрэсіўная катаракта, другасная глаўкома, субатрафія левага вочнага яблыка і іншае. Ксеніі неабходна выдаляць вока і ставіць пратэз, што каштуе вялікай сумы грошай.

Для збору сродкаў на аперацыю быў адкрыты дабрачынны рахунак у г. Масты ў ЦБП 415 філіяла 400 ААБ "Беларусбанк" N 000003 ў беларускіх рублях. Рахунак адкрыты на Ірыну Леанідаўну Давідовіч.





## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Ірына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 17 чэрвеня 2011 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.